# Беларускі Звон

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ.

| Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Біскупская вул. 12. Рэдакцыя адчынена: 12—2 штодня апрача сьвяточных дзён. | Рукапісы павінны быць напісаны чытальна і толькі на адным баку паперы, з праўдзівым провьвішчам аўтора і адрэсам (для ведама Рэдакцыі). Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі. | Цана кожнага нумару 30 м. Падпіска на 3 месяцы каштуе 400 м. (з даст. да хаты). Цана абвестак: перад тэкстам 150 мк., сярод тэксту 200 мк. і на апошняй страніцы 70 мк. за радок пэтыту ў 1 шпальт. |
|---|---|---|

Год I. Вільня. Пятніца, 28-га кастрычніка 1921 г. № 18.

## На адзін капыл.

Больш чымся апякунскія адносіны польскае школьнае адміністрацыі да нашай беларускай школьнай справы па глухіх кутках Беларусі ўжо перайшлі за мяжу свае вострасьці. Бо ведама — даўно пачаўся час школьнае працы, шмат беларускага вучыцельства зволнена, дзеня-дзе яшчэ маленькім агонькычкам нашыя школы па вёсках пасьвечваюць, Цэнтральная Рада Таварыства Беларускае Школы падала Міністру Прасьветы Польскае Рэспублікі абшырны мэморыял і цяпер цікава толькі, калі і як адгукнецца вышэйшая польскае прасьветная ўлада на тыя ненормальнасьці, якімі ўся вялізная большасьць мэморыялу ілюстрована.

Тымчасам да нас пачынаюць даходзіць весткі, якія выразна сьведчаць, што палітыка Польшчы на-яе, кажучы моваю офіцыяльнаю „kresach wschodnich“ вядзецца досіць шаблённа і, як відаць, на адзін капыл.

Ужо маем першыя весткі аб тым, як робіцца перапіс насяленьня там, дзе яно беларускае.

Есьць навет выпадкі, што нягледзячы на выразную заяву таго, каго сьпісваюць, аб тым, што ён беларус, запісваецца даная асоба, як „rosjanin“.

Што-ж-гэта ня нова. Тое самае, што здаралася нядаўна, хаця крыху наадварот. Пры расейскім панаваньні паліцэйскі ўраднік лаяў кожнага беларуса-каталіка „ляхам“, а цяпер, як-бы ў заплату за гэткае мінулае—польскі статыстык у глухой провінцыі піша беларуса расейцам.

Калі гэта выпадкі над'звычайныя ў польскай статыстыцы, беззаконныя і ведама-ж ненормальныя, дык хацелася-б ведаць, што робяць тыя адміністрацыйныя асобы, якім даручана-ж пэўна сачыць за, бяз меры заўзятымі ў польскасьці, сьпісчыкамі, ці сьпісчыкі насяленьня, сачыць за тым, каб статыстыка адбывалася зусім нормальна, а невукі, каб рабіць яе ня сьмелі.

Мы ня раз зазначалі, што пара было-б не паглыбляць таго нацыянальнага антаганізму, які істнуе і так у значнай меры.

Статыстыка рэч вельмі важная і благімі спосабамі рабіць яе няможна. Праўдзівая — яна служыць чыстым навуковым мэтам, а тэндэнцыйная — яна, як тое крывое люстра, ў скалечаным выглядзе адбівае сабою ўсю справу.

Ведаем добра, што Урад Польскі не складаецца з адных паноў ура-нацыяналістых, для якіх замест беларусаў на сьвеце істнуюць нейкія „odłamy“ польскае народнасьці, замест нашае мовы істнуе ў хворых нацыяналістычных мазгох „gwara“ польскае мовы, замест Беларусі ёсьць „kresy“, „ziemie wschodnie“ і інш.

Ёсьць недзе ў архівах, запомненая гэтак хутка ўсімі, адозва з 23 красавіка 1919 году, якою першы Маршалак Польшчы й Начальнік Яе, вядучы свае войскі на ўсход ад праўдзіва - польскіх земляў, дакляраваў даць магчымасьць тутэйшаму насяленьню выяашыць свой лёс так, як яно само хоча, бяз ніякага націску з боку Польшчы.

Аднак, адозвы застаюцца адозвамі, а практыка ўрадаваньня школьнай, ці статыстычнай адміністрацыі ня можа абыйсьціся якраз бяз гэтых самых націскаў.

Хай сабе будзе ўсё на адзін капыл. Хай будзе суджана нам прайсьці яшчэ адну дзівачную школу палітычнае апекі.

Мы толькі яшчэ раз зазначым, што толькі гэта вось нам і прыкра, што ў нацыянальнай няволі мы праходзім цяжкі і дрэнны шлях грамадзянскага выхаваньня. Бо гнёт, які-б ён ні быў, а мусіць, нарэшце, канчыцца, аб чым на практыцы найлепей ведаюць гэта палякі.

А вось тое, што ўліваецца ў душу народу праз тую, ці іншую сыстэму выхаваньня, альбо праз той, ці іншы грамадзкі лад,—гэта ўжо бясьсьледна не праходзіць.

Вызваленыя з няволі ў Амэрыцы нэгры страшэнна ненавідзелі ўсялякую фізычную працу, ўсяго толькі праз тое, што яна ў няволі накідалася ім сілаю і, стаўшы вольнымі, яны доўга трымаліся фальшывага пагляду на працу фізычную, хаця-бы й зусім вольную.

Выхаваныя ў чорнай рэакцыі мільёны расейскіх рабоў, а ня вольных грамадзян, нарэшце так збунтаваліся й пачырванелі ад рэвалюцыі, што зьдзівілі гэтым цэлы сьвет, прызнаўшы ў вялізнай сваёй масе за правадыроў сваіх тых, хто дакляраваў народу мір, а даў бесканечныя войны, замест дакляронанага хлеба давёў да таго, што цэлы сьвет зьмушаны ратаваць мільёны галодных.

Мы,—ведама, што,—не нэгры і не расейцы.

Дык можа, як-нібудзь перажывём чорныя дні нацыянальнай трагэдыі без вялікіх пасьледзтваў для свае, верым, што вольнае і лепшае будучыны, і ня будзем сагнуты на адзін капыл з рабамі.

## Аб Праскім беларускім зьезьдзе.

Рэдка каму з нацыянальных дзеячоў Беларусі, якія пражываюць у сучасны момэнт на роднай зямлі, ўдалося быць у Празе на зьездзе. Аб гэтым прыходзіцца толькі пашкадаваць. Але што-ж можна было зрабіць, калі тутэйшая ўлада не дала заграцічных пашпартоў прадстаўнікам беларускіх арганізацыяў, якія хацелі ехаць на зьезд. Шчасьліўцамі, якім дадзены былі заграцічныя пашпарты, аказаліся п. Аляксюк П. і яго група, якія сябе выстаўляюць „прадстаўнікамі часткі беларускага грамадзянства, што стаіць на грунце польскай дзяржаўнасьці“. (Rzeczpospoiita, віл. выд., № 231, арт. «Akcja niemiecko-litewska przeciwko Polsce»).

Хай будзе нам дазволена не паверыць у шчырасьць такой самаатэстацыі, бо мы добра ведаем, з якой безаглядной, прост кінэматографічнай, скорасьцю п. Аляксюк у працягу часу ад 1917 году мяняў пад сабою грунт і орыентацыі, падтрымліваючы навет „akcję niemiecką przeciwko Polsce“, калі гэта вымагалася яго інтарэсамі.

Цяпер п. Аляксюк стаіць на грунце польскай дзяржаўнасьці ў беларускіх землях... Ну, і добра! Хто можа прашкодзіць п. Аляксюку стаяць на грунце польскай дзяржаўнасьці і праводзіць у жыцьцё свае палітычныя «перакананьні»?

Толькі вось не ясна нам, ці застаецца п. Аляксюк у сваёй новай акцыі беларусам. Ясна толькі, што п. Аляксюк разьвітаўся з лёзунгамі незалежнасьці і непадзельнасьці Беларусі.

Незразумелым для нас здаецца, чаго спатрэбілася п. Аляксюку ехаць у Прагу на зьезд, гдзе, як усякаму было ясна, зьбяруцца прадстаўнікі беларускага народу, каб скоордынаваць свае сілы для барацьбы за сьвятыя лёзунгі незалежнасьці і непадзельнасьці Бацькаўшчыны,—цяпер залежнай і падзеленай. З чым ехаў у Прагу п. Аляксюк П.? З прапазыцыяй беларускім незалежнікам «стаць на грунт польскай дзяржаўнасьці»?

Калі дзеля гэтага, дык большае блазенства трудна і прыдумаць. Не сабраліся-ж беларускія дзеячы ў Празе, каб конфірмаваць Рыскія умовы, падзяліўшыя Беларусь.

Далей мы пастараемся разабрацца, дзеля чаго паехаў п. Аляксюк у Прагу, але раней падкрэсьлім, што у той час, як ніводзін дэлегат Віл. Бел. Нац. Камітэту і іншых беларускіх арганізацыяў заграцічнага пашпарту не адтрымаў, п. Аляксюк і К⁰ выехалі ў Прагу амаль ні ў „заплёмбаваных вагонах“. Тады як некаторым дэлегатам на зьезд адмовілі выдаць пашпарты спачатку ў „drodze nadzwyczajnej“, г. зн.ускораным чынам, а потым адмовілі і ў „drodze normalnej“,—Аляксюк і К⁰ выехалі,—так казалі „злыя языкі“—як па масьле і... падмасьленыя..

Але чаго-ж усё-такі езьдзіў п. Аляксюк з кампаніяй у Прагу? Што ён там чуў, што бачыў, што сам рабіў?

— Чаго езьдзіў?..

Каб потым апаганіць беларускіх дзеячоў, каб нарабіць шкоды беларускай справе несправядлівымі сьцьвярджэньнямі аб сувязі беларускага руху з нямецкай акцыяй проціў Польшчы, каб потым зрабіць скандальныя і несправядлівыя даносы „куды сьледуе...“ et cetera.

Дый што фактычна, застаецца рабіць п. Аляксюку, як ня ісьці на зрыў беларускай справы, абліваючы яе гразёю выдумак і плётак.

„Беларускі зьезд у Празе меў ня толькі антыпольскі характар. Ад'значаліся ў дыскусіі, а таксама ў тэрміналёгіі бальшавіцкія акцэнты...“

„Відаць было, што цэлай акцыяй кіруе Бэрлін“. Так заяўляе п. Аляксюк (на стр. Rzeczposp. № 231, выд. віл.) Дзіцячая брахня, дый толькі,—скажа ўсякі з нас, бо ведае, што ні антыпольскасьці, ні бальшавіцкасьці, ні кіраваньня з Бэрліну там ня было.

Як антыпольскасьць, так антырускасьць мелі, разумеецца, на зьездзе сваё месца, што датычыць адносін да нас сучаснай палітыкі абодвых нашых суседзяў: палякоў і расейцаў, але не наагул.

Што-ж да „кіраваньня з Бэрліну“, дык—ня ўсе падобны да п. Аляксюка, прывыкшага кіравацца не на свой розум, а на чыста кішанёвы грунт, гдзе-б ён ні знайшоўся і чаго-б гэты грунт ні вымагаў.

І якія ёсьць у п. Аляксюка доказы таго, што зьездам кіраваў Бэрлін?

Быць можа, зьезд у большасьці сваёй—проціў меншасьці: п. Аляксюка і К⁰ – стаяў на грунце нямецкай дзяржаўнасьці ў Беларусі?! Відаць, што—не, бо і сам п. Аляксюк гэтага ня кажа. Тады, быць можа, п. Аляксюк яшчэ паясьніць нам гэту справу.

Бедны п. Аляксюк! Яму не далі магчымасьці дагаварыць на зьездзе свае «пекнае» прамовы і спынілі у момэнт, калі ён стаў расказваць аб „закуліснай акцыі ўраду Ластоўскага і коншахтах (?) Коўна з Бэрлінам“.

Для нас вельмі цікава, чаму п. Аляксюк не дагаварыў свае прамовы ужо тут у Вільні на страніцах «Rzeczypospolitej». Мы вельмі просім аб гэтым. Няхай-бы ведалі ўсе пра „закулісныя акцыі і коншахты“, па „дакумэнтальных“ даных п. Аляксюка, а то іначай прыдзецца лічыць словы яго аб коншахтах і г. д. дрэннай выдумкай і брахнёй.

Навярнуўшы горы абвінавачаньняў на зьезд і на яго паасобных сяброў, п. Аляксюк, як відаць, з асаблівою злосьцю гаворыць аб гр. Дубяйкоўскім, які галасаваў за „антыпольскія“ рэзалюцыі зьезду, і аб адным відным прадстаўніку міністэрства заграцічных справаў у Варшаве, з якім п. Аляксюк, вярнуўшыся з Прагі, меў размову аб усім, што было ў Празе, і, паміж іншым, аб пазыцыі гр. Дубяйкоўскага, выдаваўшага сябе да апошняга часу, па словах п. Аляксюка, „полёнафілам“.

Замер п. Аляксюка „падставіць ножку“ гр. Дубяйкоўскаму ня удаўся, а п. Аляксюк, не знайшоўшы падтрыманьня у міністэрсьцьве, неспадзявана для сябе

ні маскоўскія цэнтралістыя ня створаць вольнай Беларусі. Мы павінны орыентавацца на сябе, на нашых беларускіх сялян і работнікаў. У гэтым парука усьпеху ў стварэньні вольнай, незалежнай і працоўнай Беларускай рэспублікі“.

Вось грунтоўны мотыў усіх прамоваў.

На трэці дзень Нарада слухала даклады аб Рыскім трактаце і эканамічным становішчы Беларусі і вынесла адпаведныя рэзалюцыі.

Грам. Заяц (Урад Бел. Нар. Рэсп.) паказуе, што лёзунг „гора слабым“ чырвонай стужкаю цягнецца скрозь увесь Рыскі мір. „Ня гледзячы на разрэз жывога цела Беларусі, яна будзе жыць. Домбскі і хто з ім кажуць: Берусь не павінна істнаваць, бо гэта не карысна ані польскім жыхаром Беларусі, ані самой Польшчы.

У цёмныя часы царскага рэжыму Васілеўскі і Пілсудзкі працавалі «за нашу і вашу волю», я ведаю, многія з іх працавалі з намі ў беларускіх рэвалюцыйных арганізацыях. Але што робяць яны цяпер? Дашынскі сказаў: „мы вас падзялілі, бо былі дужэйшыя“.

Далей грам. Заяц, паўтарыўшы вядомыя словы, што «умовы—кавалачкі паперы», кажа: „Лепшая частка чалавецтва павінна падвысіць сваё слова на абарону ўціснутых, а ні прынятыя намі рэзалюцыі, ні пэтыцыі нічога ня зробяць. Мы павінны вярнуцца на месцы і там набірацца сілы“.

Па скончаньні прамоваў аднагалосна прынята рэзалюцыя, пададзеная палітычнай камісіяй і складзеная з дзьвюх частак. У першай выказаны протэст супроць самых асноваў Рыскага міру. У другой—супроць практыкі окупацыйных уладаў, як у польскай, так і ў савецкай окупацыі.

Далей Нарада слухала даклад эканамічнай камісіі. Дакладчык грам. Душэўскі, падробна застанавіўшыся на эканамічным жыцьці Беларусі ў нормальны час і цяпер, прыйшоў да вываду, што беларускую прамысловасьць чакае вялікая будучына. Патрэбныя для разьвіцьця прамысловасьці фактары: гатоўка сырцу, апалу і кваліфікаванай рабочай сілы ёсьць у Беларусі з лішкаю. Потым дакладчык зачапіў і драпежнае зьніштожаньне прыродных багацьцяў Беларусі окупантамі. Пададзеная дакладчыкам ад імя эканамічнай камісіі рэзалюцыя прынята аднагалосна.

Між іншым, у гэтай рэзалюцыі, якая ў заграничных газэтах надрукована поўнасьцю, сказана (ў артыкуле 2): «Беларуская Нацыянальна-Палітычная Нарада папераджае, што правы концэсіянэраў на концэсіі, выданыя окупантамі, Беларусь ніколі ня прызнае». Другія артыкулы кажуць аб адносінах Беларусі да распрадажы яе багацьцяў чужынцамі і да колёнізацыі яе земляў, з ад'знакаю, што Беларусь ніколі ня прызнае колёнізатараў за сваіх грамадзян.

Нарада пастанавіла заснаваць паўсёднае Эканамічнае Бюро ў Празе. У склад Бюро ўвайшлі: Душэўскі, Дубяйкоўскі, Жытлоўскі, Бароўскі і Боеў.

У рэзалюцыі аб Рыскім трактаце сказана, што «стоячы на грунце Граматы Рады Беларускай Народнай Рэспублікі ад 25. Ш. 1918 г., абвясьціўшэй незалежнасьць Беларусі ў межах лічэбнай перавагі беларускага народу, Бел. Нац.-Пал. Нарада, складзеная з прадстаўнікоў беларускіх партыяў і нацыянальных арганізацыяў, сабраных у Празе з усіх окупаваных беларускіх земляў аднаголасна заяўляе (передаём у сваім переказе увага „Б. В.“), што Беларускі народ ніколі не адмовіцца ад змаганьня за незалежнасьць і непадзельнасьць Беларусі, што ўсе ранейшыя беларускія протэсты супроць падзелаў Беларусі Нарадай падцьвярджаюцца і што Нарада заклікае ўсе беларускія сілы да спраўджаньня беларускіх жаданьняў.

У Віленскім пытаньні Нарада прызнае, што яно разьвязана Лігай Нацыяў бяз удзелу прадстаўнікоў Беларускага Народу і навет без фармальнага азнаямленьня з яго воляй. Нарада будзе лічыць пастанову Лігі Нацыяў часоваю да момэнту склікаьня Вышэйшага Законадаўчага Органу Беларусі, якому аднаму належыць права устанавіць паўсёдныя граніцы Беларусі. Нарада протэстуе супроць пастановаў Лігі Нацыяў, прызнаючых беларусаў за нацыянульную меншасьць у Віленшчыне. У вадносінах да Літвы Нарада мае пэўнасьць, з пагляду векавой супольнасьці палітычных і эканамічных інтарэсаў, знайсьці адпаведныя шляхі добрасуседзкаму гаспадарсьцьвенаму сужыцьцю. Вільня мае быць яблыкам не разладу, але аб'яднаньня беларусаў з ліцьвінамі. Нарада прызнае чародным падзелам Беларусі адданьне Лігаю Нацыяў Горадзеншчыны з Горадмам Польшчы“.

Як-бы ў проціележнасьць гэтаму бесстароннаму на наш пагляд асьвятленьню Беларускай Нарады ў чужаземнай прэсе, тутэйшая „Gazeta Wileńska“ (№ 242 за 25. X. 21.) падае інформацыю агэнтуры В. І. Р. Р. ЕЕ. пад загалоўкам „Echa Zjazdu Białoruskiego w Pradze“.

Тут паўторна на шпальтах „Gaz. Wil.“ выступае „душа“ тутэйшае «Краёвае Сувязі» П. Аляксюк, ад якога й адтрымала „ЕЕ“, як быццам зьмест прынятых у Празе пастановаў.

Gaz. Wileńska піша:

„Прадстаўнік Цэнтральне (?—Рэд.) Беларускае (ну, гэта ўжо саўсім няпраўда! Рэд.). Краёвае Сувязі п. Аляксюк закамунікаваў нам зьмест важнейшых пастановаў, прынятых на адбытым нядаўна ў Празе Беларускім Зьезьдзе“.

Перадаўшы вышэйсказаныя пастановы датычна Віленшчыны й Рыскага міру, „Gaz. Wil.“ дадае інформацыю Аляксюка аб тым, што далейшыя рэзалюцыі рашуча выказваюцца проці арганізацыяў... Савінкова й Балаховіча.

А што да беларускасьці тутэйшае Краёвае Сувязі, дык тут „ЕЕ“ відочна перасольвае, бо ў канцы ім перадаюцца словы самога П. Аляксюка, які відаць, усё-ж такі не настолькі блазен, каб сваю Краёвую Сувязь назваць... беларускаю.

—«Пры здарэньні зазначаю,—хоча перад некім апраўдацца, ці што п. Аляксюк,—што, як прадстаўнік Цэнтральнае Краёвае Сувязі, ў літоўскай справе я голасу ня браў і ніякага становішча не займаў».

Уражаньні свае П. Аляксюк нібыто злавіў з шмат прамоваў, сказаных на праскім зьезьдзе дэлегатамі ад Ковеншчыны. А ўражаньні гэтыя ясна даводзяць, — як ён кажа, — супольную працу Ліцьвіноў з агітатарамі ўраду (п. Аляксюк ужывае гэтае слова ў чужаслове „—“) Ластоўскага на абшары Віленшчыны і т. зв. (навет і па Аляксюку) Kresach Wschodnich.

Саўсім Амэрыку знайшоў і адкрыў п. Аляксюк. А ці вядома гэтаму ягамосьцію з «цэнтральнай» сувязі, што і ён на сказаных абшарах вядзе *супольную* працу, аб чым ёсьць у нас такія-сякія дакумэнты, хаця, праўда, й без дакумэнтаў толькі сьляпому ня відаць работы п. Аляксюка.

Дзівіць нас толькі, што на Беларускім Зьезьдзе ў Празе мог гэты «краёвец» мець права голасу і слухаць беларускія прамовы, ня стыдаючыся за свае з іх вывады.

# Дзьвіна.

Цячэ Дзьвіна шырокая
Да сіняга, да мора...
І думкамі далёка я
Лячу ў старыя поры.

Дзьвіна, Дзьвіна! ты бачыла
І росквіт наш і славу,
Ты песьціла і лашчыла
Чаўноў крывіцкіх лаву.

І песьні з іх магутныя
Прымала ты на хвалі —
Шумелі воды мутныя,
Бы згоду балявалі.

Цяпер—ах песьні йнакшыя
Чутны тут навакола,
Тут людзі ўсе абракшыя
І хмурны й невясёлы...

Ня чуцен, рэчка бурная,
На берагох шум веча —
Цяпер тут хаты курныя,
Тут страшная галеча.

Скажы-ж, рака удалая,
Вякоў ты вартаўніца,
Як слава падупалая —
Ці хутка быць маніцца?..

Зара ўзыйшла. Ўжо сьвет настаў...
І хвалі ўжо ясьнеюць...
Вітай, сястра! Прамень упаў...
Другія ветры веюць!

Ўжо клікі йдуць гарачыя,
Ні слова больш аб горы—
Нясі гады мярцьвячыя,
Хавай у глыб, у мора.

І. Д.

# Палітычная хроніка.

*Пятніца,* 21 *кастрычніка.*

— Як паведамляе з Варшавы ўласны корэспондэнт газэты „Rzeczpospolita“, бліжэйшае пасяджэньне Рады Лігі Народаў адбудзецца ў Жэнэве ў сярэдзіне сьнежня. На гэтым пасяджэньні нібыто будзе разглядацца віленскае пытаньне.

— „Gaz. Warszawska“ перадае з бэрлінскае прэсы, быццам 4 польскія дывізіі сталі на сьлезкай граніцы, гатовыя заняць прызнаныя Польшчы тэрыторыі.

— Нямецкія прадстаўнікі ў Лёндане, Парыжы і Рыме робяць адчайныя прадстаўленьні па справе Верхняй Сьлезіі, пагражаючы гаспадарчай катастрофаю ў Нямеччыне.

— Вярнуўшыся ў Нэаполь, пасьля трохгадовага інтэрнаваньня ў Сыбіры, італьянскі граф Закарыа заяўляе, што ён даведаўся „з самых пэўных крыніцаў“, быццам усе чуткі аб казьні Мікалая Раманава й царэвіча Аляксея „ня маюць ніякага грунту“. Быўшы цар і насьледнік, нібыто, знаходзяцца ў поўнай бясьпечнасьці ў Японіі.

— З прычыны трэбаваньня бальшавікоў аб высяленьні Савінкова з Польшчы, газэта „Свобода“ пераносіцца ў Гданск, дзе Савінковым закладаецца спэцыяльная расейская друкарня.

---

**Янка.** Чаго табе?

**Маланка.** Нікога-ж тутака нямашака!

**Янка.** Дык што? Цалавацца хочаш?

**Маланка.** Вось паскуднік! У цябе заўсёды сьвінствы ў галаве!

**Яняа.** Дык чаго хочаш?

**Маланка.** Пішчыць нешта...

**Янка.** Дзе пішчыць?

**Маланка.** Дык у місе.

**Янка.** Ты ізноў з гэтай місай!.. Як я адшпілю дзягу ды адлупцую, дык ты тады запішчыш!

**Маланка.** Чаго-ж ты крычыш! я-ж нічога... я толькі так... (паўза) Янка! саколік мой! я ўжо даўжэй не магу! Лясун-жа нас ня ўбачыць... Я хутка-хутка адчыню місу і гляну ў сярэдзіну...

**Янка** (крычыць). Ня сьмей!!

**Маланка.** Чаму-ж гэта: ня сьмей? Вось калі захачу, дык і пагляджу, а ты й нічога мне ня зробіш!

**Янка.** Лупіць буду!

**Маланка.** Ну толькі папрабуй! Тады кіну і цябе, і гэты рай і пайду сабе да хаты! (плача).

**Янка.** Ну, ўжо пачала раўсьці! Што мне рабіць з гэтай шалёнай бабай? Вось раптам захацелася ёй таго, што забаронена!.. Ну, Маланка! Ну годзі, ну, ня плач ужо!..

**Маланка** (трапешчацца). Я місы хачу!!

**Янка.** А каб ты трэснула разам з сваей місай! Вось задаўбла сабе ў галаву: місу ды місу!..

**Маланка.** Вось які ты! Ты для свае жонкі нейкае дурное місы шкадуеш! Ну, пачакай-жа-ж ты!..

**Янка.** Ах, бедны я, бедны чалавек! Вось доля!.. (пяе):

Кінь-жа ўжо плакаць,
Цябе спакушае
Тут нячыста сіла.
Хочаш хіба страціць
Рай і ўсю уцеху.
Кінь-жа намаўляці
Ты мяне да грэху.

**Маланка** (пяе):

Вось які, я бачу,
Ты мужык паганы!
Цяжкі лёс мне беднай
З гэтым мужам даны.
Ты-ж калісь казаў мне,
Прысягаў, што любіш,
А цяпер за міску
Жыцьце маё губіш. *)

**Янка.** Ну, калі так, дык чорт з табой! Бачу, што ўжо з табой раданькі ніякае ня дам... Трэба толькі паглядзець, ці нікагусенькі няма? (паглядзеўшы наўкола). Не, нікагутка!.. Ну, глядзі ў гэтую праклятую місу, каб яна згарэла!

**Маланка** (адчыняе місу, з місы вылятае птушка). Ах, якая прыгожая птушачка!..

**Янка.** Трымай! трымай!.. А, каб цябе немач! Вось уцякла птушка!.. Што-ж цяпер з гэтага будзе!..

**Маланка.** А ты-ж чаму не лавіў, целяпень, ты гэтакі?

**Янка.** А ты нашто выпусьціла? Вось будзе цяпер бяда!

**Маланка.** А хто-ж мог ведаць, што яна сядзіць тамака ў місе?

**Янка.** Зусім ня трэба было чапаць!

**Маланка.** Калі цікавасьцы!..

**Янка.** Вось праз тваю цікавасьць і прапалі мы цяпер... Хто ведае, што цяпер з гэтага будзе!

*) На мэлёдыю: „Ой, ляцелі гусі“..

**Зьява 6.**

**Тыя-ж і Лясун.**

**Лясун.** Янка і Маланка!

**Янка.** Мы тут, паночку! Кланяемся ласцы панскай.

**Лясун.** Ці споўнілі вы мой прыказ, які тут дадзены для вас: ці місы тэй вы не чапалі? З цікавасьці, не адчынялі?

**Маланка.** А хто-ж бы яе адчыняў, калі забаронена!

**Янка.** Ведама, наша мужыцкая справа слухаць ды рабіць, што кажуць...

**Лясун.** А дзе падзелась тая птушка, якая ў місе там сядзела?

**Янка.** Птушка? А хто яе ведае! Мусі кот зьеў...

**Маланка.** Значыцца ў місе была птушка? А мы й ня ведалі, і ня бачылі!

**Лясун.** А птушка шчасьця ўжо высока! вам не злавіць яе ніколі. Ужо ня убачыць ваша вока чароўну птушку лепшай долі. Слабыя вы, як усе людзі, ваш лёс — у вечным горы жыць, раю для вас балей ня будзе, — аб шчасьці толькі ўжо вам сьніць. У сваю ізноў ідзеце хату,—ўпусьцілі шчасьце вы сваё, вы долю страцілі багату, дык марш! —на старае жыцьцё! (хаваецца).

**Зьява 7.**

**Янка і Маланка, пасьля 2 Духі.**

**Янка** (да Маланкі). Гэта ўсё праз цябе!

**Маланка.** Няпраўда! Уся гэтая бяда праз цябе!

**Янка.** Дык-жа ж ты адчыніла місу й выпусьціла птушку шчасьця?!

(Канец будзе).

Ірляндыі даходзяць трывожныя весткі аб азбраеньні сінфэйнэраў і пасьпешнай арганізацыі насяленьня для барацьбы з Англіяй.

— На шмат ірляндзкіх вокругаў наложаны асобны падатак на ірляндзкую нацыянальную армію.

— У Баўгарыі забіты, на грунце палітычным, ваенны міністар Дзімітраў.

— У гутарцы з прадстаўніком газэты „Čas" Керэнскі заявіў, што ўсе чуткі аб згодзе расейскіх эсэраў з бальшавікамі ня маюць грунту.

— З прычыны пагрозы гарадзкіх рабочых у Пазнані забастоўкаю, ўсе прадпрыемствы заняты войскам.

— З Масквы паведамляюць, што прадстаўнік амэрыканскай адміністрацыі падмогі, палк. Гаскэль адведаў патрыярха Ціхана і меў з ім доўгую гутарку.

— Бышы аўстрыйскі імпэратар Кароль ізноў прабуе вярнуцца на каралеўскі пасад у Вэнгрыі. Ён уцёк з Швайцарыі на самалёце і высеў у Шапроні (Захадн. Вэнгрыя), назначыўшы б. старшыню вэнгерскага парляманту, Ракоўскага прэм'ер-міністрам Вэнгрыі.

— У Чэхіі абвешчана частковая мобілізацыя.

У ваколіцах Будапэшту (сталіца Вэнгрыі) чуваць гарматнія стрэлы. Войскі бышч. імпэратара Кароля складаюцца з батальёнаў майора Остэнбурга і чужаземных ахвотніцкіх аддзелаў.

— Прадстаўнікі Антанты ў Будапэшце заявілі вэнгерскаму ураду протэст проці звароту Кароля, Вэнгерскі ўрад заявіў, што ён проці яго далейшага пабыту ў Вэнгрыі.

*Серада, 26 кастрычніка.*

— Польскім урадам загатоўлены тэкст ноты аб згодзе Польшчы прыняць жэнэўскую пастанову аб Верхн. Сьлезіі.

— Усе нямецкія саюзы ў Сьлезіі зьвярнуліся да нямецкага ўраду з протэстам проці жэнэўскай пастановы, просячы яго дабівацца адмены пастановы Лігі.

— „Gaz. Warsz." паведамляе, што проектуецца ўвесьці ў Верхн. Сьлезіі ваенную адміністрацыю з гэн. Шэптыцкім на чале.

— Старшыня дэлегацыі сінфэйнэраў Колінз прывёз у Дублін ультыматум Лёйд-Джорджа.

— Як паведамляе „Robotnik", на месца Філіповіча польскім паслом у Маскву будзе назначаны Стэфанскі й сэкрэтаром пры ім Ладось.

— Пазнанскі магістрат запрасіў усіх работнікаў стаць на работу 26.X, ў праціўным выпадку ўсе будуць лічыцца звольненымі.

— Ува ўсіх штатах Паўночнай Амэрыкі энэргічна рыхтуюцца на выпадак паўстаньня забастоўкі. Ваеннае міністэрства загадала ўсім корпусным камандзерам трымаць напагатове вайсковых, знаёмых з чугуначнаю справаю.

— У Ангоры падпісаны дагавор паміж Францыяй і кэмалістымі. Французы пакідаюць Кілікію, дзе турэцкім урадам гарантуюцца правы меншасьці. Французы адтрымоўваюць права эксплёатацыі Багдадзкай дарогі. Спэцыяльныя артыкулы абмаўляюць гаспадарчыя адносіны паміж Турцыяй і Сірыяй.

— Адступаючы за Эскізагру і Карагісань, грэкі страцілі ўсё, што заваявалі апошнім наступленьнем.

— У Празе ў нядзелю ўрачыста адчынены украінскі унівэрсытэт, перанесены туды з Вены.

— Спроба Кароля Габсбурга ізноў заняць вэнгерскі пасад дасюль яшчэ мае неясны зварот. Ходзяць чуткі, быццам частка ўрадовага войска перайшла на старану Кароля. Начальнік Дзяржавы, Хорты, выдаў адозву, заявіўшы, што перадача ўлады Каролю ў сучасны момэнт зьяўляецца згубаю для краю.

*Чацьвер, 27 кастрычніка.*

— З Сьлезіі даходзяць весткі аб пасьпешнай арганізацыі немцаў на прызнаных Польшчы тэрыторыях.

— Ходзяць чуткі, быццам Вірт згадзіўся на прапазыцыю прэзыдэнта Эбэрта стварыць новы кабінэт.

— Польшча прыняла жэнэўскае рашэньне верхнясьлезкага пытаньня.

— З Прагі адкліканы папскі нунцыюш, што праскаю прэсаю прызнаецца за аканчальны разрыў дыплёматычных зносін паміж Ватыканам і чэхаславацкім урадам.

— „Gaz. Warsz." паведамляе, што сучасны пераварот у Португаліі носіць выразны бальшавіцкі характар.

— Спроба рэстаўрацыі монархіі ў Вэнгрыі зьліквідована. Кароль Габсбург і яго жонка Зіта інтэрнованы ў Тоці. Андрашы і Ракоўскі арыштованы, проці якіх, як і проці іншых райцаў экс-караля падымаецца судовае прасьледаваньне. Істнуе плян інтэрнаваньня Кароля на аднэй з дунайскіх выспаў.

— „Der Morgen" перадае з Прагі, што чэскі ўрад паведаміў урад Вэнгрыі, што ён трэбуе выдаленьня Кароля з Вэнгрыі ў працягу 48 гадзін, пасьля чаго ўрад пакідае сабе свабоду дзеяў.

— Ангельскае рабочая партыя занялася пытаньнем аб новым рабочым інтэрнацыянале.

— На апошнім пасяджэньні ірляндзкай конфэрэнцыі дэ-Валера не апраўдаваўся. Палажэньне трывожнае. Апублікаваньне тэлеграмы дэ-Валеры рымскаму папе аб нелёяльнасьці да ангельскага караля зрабіла на Лёйд-Джорджа моцнае ўражаньне.

— Лёнданскаму трыбуналу перадана на рашэньне пытаньне аб тым, ці можа Красін карыстацца правамі, належнымі паслом.

# Замежныя весткі.

## З Чэскага музэю.

**Прага, 8. X. 21 г.**

Будучы на конфэрэнцыі ў Празе, прадстаўнікі беларускага народу не змаглі не пайсьці ў Чэскі Музэй, дзе захавалася адна з іскаркаў былой беларускай славы— Біблія Францішка Скарыны.

Чэскі Нацыянальны Музэй гэтааграмаднейшы будынак у чатыры паверхі з пазалачанымі вежамі на вярху. З высокага ганку адчыняецца від на глаўнейшую вуліцу Прагі — Вацлаўскае намесьце. Ля ног высіцца памятнік аднаму з першых гэрояў —Вацлаву.

Музэй — гэта скарбніца ўсяго найдаражэйшага для душы чэха, ўсяе яго прошлае славы.

Але ня месца ў кароткай заметцы апісваць нацыянальную гордасьць чэхаў, якая варта шматтомнай працы. Я вяду хутчэй да нашага скарбу — да Бібліі.

Сярод вялізарнай бібліятэкі, поўнай рэдкіх кніг, з ласкавага пазваленьня загадчыка і пад яго ня меней ласкавым паказе, вы пападаеце ў пакой, сьветлы, прасторны, высокі і поўны кнігаў і, дрыжачы ад нецярпеньня, праз хвілінку ўжо трымаеце невялічкую кніжачку, падобную гэтак да царкоўнага псалтыра, ў скураной аправе.

На чыстай першай страніцы рукою напісана: Въ Чешскій музей въ Праге от беченкова (неразборчыва). Москва 1867, мая 24 (ў годзе чысло 8 падобна на 7, так што добра невядома).

Далей загалоўная страніца з прыгожай віньеткай.

Паўуставам напісана: почынается книга Ісуса сына Сирахова, сына Іерусалимленина"... І далей... „Всякая мудрость есть от Бога"... і т. д.

Другая страніца чыстая. Папера захавалася добрая. Такая ёмкая, як-бы скураная.

У кожным зачале размалёвана загалоўная літара якімі-небудзь фігурамі. Найболей—чалавек, ангелы, чалавечыя галовы, галава якой-небудзь жывёлы і краскі.

Самы тэкст так блізкі да сучаснага, што іншы раз здаецца, бы кніга пісалася цяпер для цэрквы. Вось прыклады: (стр. 47) „пазыч бліжнему твоему в час потребы"...

... Кто мілуеть сына своего, сей часто прыкладаеть к нему пугу.

* * *

Ведама, што нельга было рахаваць на тое, каб за незалежнасьць Беларусі падалі свае галасы прадстаўнікі земстваў і гарадоў, ясна толькі было, што ўсе праўдзівыя беларускія галасы ў Радзе Рэспублікі за гэта выкажуцца дружна.

Раньнім вечарам 25 сакавіка 1918 году пачалося пасяджэньне Рады Рэспублікі, маючы на парадку дня адно толькі кардынальнае пытаньне: абвяшчэньне незалежнасьці.

Як і трэ' было спадзявацца, пачалася нябывалая трыбунная барацьба беларусаў з „тоже бѣлоруссами". З абодвых бакоў выказалася аж 20 аратараў. Прадстаўнікі земстваў і гарадоў на чале з Ярашэвічам і Злобіным і прадстаўнікі жыдоў (за выняткам аднаго), выказваючыся проці, напіралі галоўным чынам на тое, што Рада Рэспублікі ня можа праклямаваць незалежнасьці Беларусі, бо гэтым яна нарушыць волю разагнанага бальшавікамі Ўсебеларускага Зьезду, ў адным з пунктаў рэзалюцыі якога гаварылася ясна „о неотторжимости Бѣлоруссіи от Россійской Федеративной Демократической Республики".

На гэта з беларускага боку было адказана, што перш за ўсё ніякае Расейскае Фэдэрацыйнае Дэмократычнае Рэспублікі ня істнуе, што ў Берасьці Расея, хаця й бальшавіцкая, аддала Беларусь немцам і гэтым самым зрабіла „отторженіе", а, нарэшце, на аснове якога-ж пункту расейскае конституцыі ў Расеі скінулі цара і г. д.

Пазыцыя беларускай часьці Рады была яснаю, яе праціўнікаў гэтак сама і лішнія размовы самі сабою падхозілі да канца, хаця надта туга.

Цікава, што той самы Злобін, які 19 лютага заараз-жа пасьля заняцьця Выканаўчым Камітэтам б. Губэрнатарскага Дому неяк заікнуўся амаль ня першым аб тым, што можа й трэ' было-б абвясьціць Беларусь незалежнаю, цяпер баяўся гэтага, як агню і цьвярдзіў навет, што акт гэткі ня мае ніякага значэньня, калі сьледам за ім Расея не зрачэцца свайго сувэрэнітэту над Беларусьсю.

Нельга не ад'значыць і таго, што з усяе процібеларускае групы адзін толькі сябар жыдоўскае аб'яднанае социялістычнае партыі грамадзянін Мац у нязвычайна моцнай прамове выказаўся за незалежнасьць, аднак пры галасаваньні, як чалавек партыйна-дысцыплінованы, мусіў галасаваць проці сваіх перакананьняў разам з рэштаю сваіх двох партыйных таварышоў (Гутман і Мер'зсін) аб чым публічна й заявіў.

Калі справа падыйшла да галасаваньня, дык Злобін і Ярашэвіч стараліся да апошняга разьбіць якнібудзь беларускія галасы „Социялістычнай Грамады" й беларусаў, што ёй спачувалі, і не адзін раз адбываліся, перад галасаваньнем пяцьмінютныя пярэрвы. Нарэшце, галасаваньне адбылося ўставаньнем галасаваўшых „за" незалежнасьць і дало поўную перавагу. Праціўнікі рэзалюцыі, (якая зводзілася да формулы, што Рада пастанаўляе абвясьціць Беларусь незалежнаю й выдаць аб гэтым адпаведную Устаўную Грамату) пакінулі Раду Рэспублікі. Гутман навет згаджаўся на незалежнасьць, калі сьледам за гэтым будзе прынята пастанова аб... фэдэрацыі з Расеяй. Паўставалі пытаньні, чаму гэта з Расеяй, з якою Расеяй і чаму ня з кім іншым з суседзяў?

Формула аб незалежнасьці была прынята раньняй раніцай (каля 6 гадзіны) і глянуўшы ў вакно на першы сьвет заранкі, Варонка сказаў выходзіўшым з Рады: „Гэта сонца Беларусі!" Назаўтра быў зроблены працяг пасяджэньня Рады і прыняты тэкст гэткае (трэцяе) Устаўнае Граматы:

### УСТАЎНАЯ ГРАМАТА
### Рады Беларускай Народнай Рэспублікі.

Год назад народы Беларусі разам з народамі Расеі скінулі ярмо Расейскага царызму, які найцяжэй прыціснуў быў Беларусь; ня пытаючыся народу, ён укінуў наш край у пажар вайны, якая чыста зруйнавала гарады і вёскі беларускія. Цяпер мы, Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, скідаем з роднага краю апошняе ярмо дзяржаўнае залежнасьці, якое гвалтам накінулі расейскія цары на наш вольны і незалежны край. Ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца Незалежнай і вольнай Дзяржавай. Самі народы Беларусі, ў асобе свайго Установчага Сойму, пастановяць аб будучых дзяржаўных зьвязях Беларусі.

На моцы гэгага трацяць сілу ўсе старыя дзяржаўныя зьвязі, якія далі магчымасьць чужому Ураду падпісаць і за Беларусь трактат у Бярэсьці, што забівае на сьмерць Беларускі Народ, дзелячы зямлю яго на часткі. На моцы гэтага Ўрад Беларускай Народнай Рэспублікі мае ўвайсьці ў адносіны з зацікаўленымі старонамі, прапануючы ім перагледзіць тую часьціну берасьцейскага трактату, якая датычыць Беларусі, і падпісаць міравую ўмову з усімі ваяваўшымі дзяржавамі.

Беларуская Народная Рэспубліка павінна абняць усе землі, дзе жыве і мае лічэбную перавагу беларускі народ: а ласьне: Магілёўшчыну, беларускія часьці Меншчыны, Гродзеншчыны, Віленшчыны, Вітэбшчыны, Смаленшчыны, Чарнігаўшчыны і сумежныя часьці суседніх губэрняў, заселеныя беларусамі.

Беларуская Народная Рэспубліка пацьвярджае ўсе тыя правы і вольнасьці грамадзян і народаў Беларусі, якія абвешчаны Устаўнай Граматай ад 9-га сакавіка 1918 г.

Абвяшчаючы аб незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі, Рада яе пакладае свае надзеі на тое, што ўсе любячыя волю народы дапамогуць беларускаму народу ў поўнай меры зьдзейсьніць яго палітычна-дзяржаўныя ідэалы.

25 сакавіка 1918 г. Менск.

**Рада Беларускай Народнай Рэспублікі.**

Трэцяя Устаўная Грамата была лебядзінаю песьняю „Беларускай Социялістычнай Грамады". У сваім социяль-патрыятызьме яна зайшла так далёка, што, коаліраваўшы пасьля выхаду з Рады земстваў і гарадоў з „Беларускім Народным Прадстаўніцтвам („Weissrutenische Volks-Komitee"), часткаю сваею галасавала за пасылку скірмунтаўскай тэлеграмы нямецкаму кайзэру Вільгэльму II і, дзякуючы гэтаму, разваліласа перастаўшы істнаваць, як партыя.

Праўда, што рана, ці позна нязгодныя паміж сабою эс-эраўскі й марксіцкі кірункі Социялістычнай Грамады ўсё роўна прывялі-б яе да расколу, хаця й ня гэткага сумнага.

---

«Беларускае Народнае Прадстаўніцтва» сьмела можна назваць партыяю Рамана Скірмунта за той час. Сэкрэтаром „прадстаўніцтва» быў, выключаны з Выканаўчага Камітэту, П. Аляксюк, сябрамі былі розныя мяшчанскія элемэнты Менску, паміж імі беларус Т. Вярнікоўскі, праўдзівы паляк Хржонстовскі (быўшы гарадзкі галава) і інш. Кватэра «прадстаўніцтва» была на Серпухаўскай вул. недалёка ад памяшканьня Рады, якая зьмяшчалася на Захараўскай вул. ў доме № 43, дзе быў зусім легальна прыбіты шыльд Народнага Сэкрэтарыяту. Гэткае суседзтва Рады з прадстаўніцтвам не абходзілася без таго, ці іншага контакту іх, а, па выхадзе прадстаўнікоў гарадоў і земстваў з Рады, адбыўся ўваход у яе «Народнага Прадстаўніцтва".

**Краўцоў Макар.**

(Працяг будзе).

... „Працовал есть богатый в собраніе скарбов“... (50 стр.).

(Стр. 64).

— „Початок потрэбное рэчы жывота человеческого есть: огонь, вода, железо, соль, млеко... і масло древяное і одежа“.

Цікава, што наглядаюцца некаторыя асобнасьці сучаснага беларускага правапісу, як у 3 асобе цяпер. часу — замест звычайнага царкоўнага „ъ“—стаіць „ь“—, затым „е“ ў родным склоне прыметаў.

«О доброй славе веліть печаловатися, от грехов удалятіся, найболей от злое жены“.

Заканчваецца кніга так: «Доконана есть сія кніга Ісуса сына Сирахова сына Іерусалимленина, рекомая панаретос или Екклезиастус, еже і сказуется всех добрых нравов сокровищче, или церковник.

С помощью в Тройце Единаго Бога и Его Пречистой Матери. Повеленіем, працею і выкладом ізбранного мужа в лекарскіх науках доктора Францiска Скарініна сына с Полоцка. У славном старом месте Празском. Лета по Божіем нароженіі Тысешчного Петсотого і седмогонадесят.

Месяца декабра дня пятого“.

Разам з гэтаю кніжкаю ляжыць: Статут Вял. Князьства Літоўскага (от найяснейшага господара короля его милости Жикгімонта третего на коронацыі в Кракове року 1588).

На загалоўнай страніцы гэрб (пагоня), а на другім патрэт Жыгімонта з прыгожымі краямі. Князь у кароне з скіпэтрам і дзяржаваю ў руках.

Папера згніла, часта толькі краі тэксту наклеены на чыстыя лісты.

Трэцяя кніга—абсьлед працы Скарыны. Доктор Франциск Скорина. Его переводы печатныя изданія и язык. Изслѣдованіе П. В. Владимирова. 1888 год.

Аграмадная кніга болей 500 страніц у добрай справе. Шмат цікавых заметак.

**Ігнат Дварчанін.**

# Жыцьцё правінцыі.

## Як робяць перапісь.

**М. КРЫНКІ**, Горадзенскага пав.

Вельмі цікава праходзіла перапісь, якая была зроблена па загаду Галоўнага Статыстычнага Ўраду Рэчыпаспалітай. За некалькі дзён да гэтай перапісі ў нас ужо было чутно аб ёй. І вось 4-га кастрычніка дайшоў чарод да нашай вёскі. Хаця мы і чулі, што перапісь будзе аднадзённая, але-ж яна пачалася 30 верасьня і працягнулася да 4-га кастрычніка ўлучна. У нашай вёсцы рэгістрацыю праводзіла польская вучыцелька Я. Ст. Сьпісаўшы ўсё да пытаньня „Język ojczysty“, яна і задае гэтае пытаньне мне. „Беларускі“ адказваю ёй, але бачу—яна піша: „polski i białoruski“. Далей даходзіць да пытаньня: „Do jakiej zalicza siebie narodowości“ і пытаецца. Я адказваю: „да беларускай“, а яна усьмяхаючыся піша: „Rosjanin“. Добра заўважыўшы, як зрэдагавана на блянку гэтае пытаньне, я і кажу паненцы: „Паненачка, вы памыліліся, я беларус, а не расеец“, а яна мне адказвае, што гэта справа ад яе не залежыць, што яе так навучыў „інструктар“. Пачакайце, кажу, інструктар мо‘ з Крынак, а найбольш калі ў Горадне пражывае, а блянкі прышлі з Варшавы ад Галоўнага Статыстычнага Ўраду, дык трэба больш увагі зварочаваць на блянк і на тыя пытаньні, якія ёсьць у ім, чымся на пана „інструктара“. Паненка ўзноў засьмялялася толькі, а памылкі так і не паправіла. Мне зрабіліся цяжка на душы з той прычыны, што з сёньняшняга дня я „расеец“, а не беларус, але-ж рады ніякай даць ня мог...

Панэ „інструктары“! пішэце, пішэце на паперы, перарабляйце на ім беларусаў на маскоўцаў і палякоў, але ў глыбіні нашых сэрцаў перарабіць нас вам ня ўдасцца.

**Супрон Дзяга.**

(„Б. В.“).

**В. МАЦКАЛЫ** Арлянскае гміны, Лідзк. п.

Шмат будуць казаць аб лічбе польскага насяленьня на „крэсах“, якую дасьць статыстыка з 30 верасьня па 1 кастрычніка. Але колькі будзе сапраўдных палякоў у вагульным ліку насяленьня, можна бачыць з такога прыкладу.

Статыстычны агент ці камісар, польскі вучыцель Арлянскае польскае школы Лідзкага павету п. Дамброўскі піша ў в. Мацкалы Арлянскае гміны.

У вёсцы ніхто ніколі ня лічыў сябе паляком і сноў навет ня сьніў, што яго „зробяць“ паляком, але зрабілася неяк так, што блізка ўсе сталі палякамі.

Вучыцель-камісар апрашвае. Людзі гавораць праўду, што яны беларусы, што паміж іх няма палякоў. „Калі ня хочаце, каб я запісаў вас палякамі, то зараз прыедзе паліцыя і бізунамі выганіць вас адгэтуль ў Расею“. „А паночку, а міленькі, запісвай нас да Польшчы“, — сьлязьліва галосяць людзі і кідаюцца цалаваць „апосталу-статысту“ рукі. І ў графах 13, 14 і 15 (форма А. сьпіс люднасьці) зьяўляюцца новыя палякі, якія ўсе-ж такі, як лічылі, так і лічаць сябе беларусамі, гавораць толькі па-беларуску. А гэта статыстыка ўсе-ж такі павялічвае лічбу палякоў на паперы.

(„Б. В.“).

# Беларуская хроніка.

## У Т-ве Беларускае Школы.

У пятніцу 21 гэтага кастрычніка адбылося пасяджэньне Прэзыдыуму Рады Таварыства Беларускае Школы. Разгледжана была справа Радашкоўскай Беларускай Гімназіі і інш.

Рада Таварыства падала Міністру Прасьветы Польскае Рэспублікі мэморыял, ў якім, даводзячы аб зусім ненармальным палажэньні беларускае школьнае справы над Польшчаю, лічыць за мінімальныя дамаганьні беларускага грамадзянства ў гэтай справе:

1) Утварэньне сеткі беларускіх пачаткавых школ, адпавядаючай колькасьці беларускага насяленьня і прынятку ўжо істнуючых школ на кошт Гаспадарства.

2) Спыніць экстэрмінацыйную палітыку ў адносінах да беларускага вучыцельства; перастаць прымусова вывозіць беларускае вучыцельства на курсы ў цэнтральныя землі Польшчы.

3) Адчыніць для беларускіх вучыцялёў у сёлетнім школьным годзе Беларускую Вучыцельскую Сэмінарыю, ды кароткачасовыя дадатковыя вучыцельскія курсы з вучэньнем польскае мовы ў Глыбокім, Навáградку, Баранавічах, Нясьвіжы і Лунінцы.

4) Адпусьціць значнейшыя крэдыты на выдавецтва беларускіх школьных падручнікаў.

5) Субсыд‘яваць усе клясы ў гімназіях і іншых беларускіх сярэдніх школах, ды беларускія клясы ў гімназіях пераходнага тыпу (расейска-беларускія, польска-беларускія).

6) Даць правы беларускім гімназіям і аддаліць усе перашкоды, робленыя ім пры даставаньні концэсіяў.

7) Адчыніць беларускую катэдру ў Віленскім Унівэрсытэце.

8) Утварыць Аддзел беларускіх школ у Міністэрсьцьве Вер і Асьветы з адпаведнымі рэфэрантамі і інструктарамі на мясцох, выдаць адпаведныя інструкцыі мясцовым школьным уладам у сэнсе паддзяржаньня, а, прынамсі, толераваньня беларускіх школ.

У аўторак, 25 гэтага кастрычніка, адбыўся агульны сход Рады Т-ва Белар. Школы. Перавыбраны Прэзыдыум.

Старшынёю застаўся А. Смоліч, сэкрэтаром выбраны І. Краскоўскі.

З Ашмяны ўступілі запраўднымі сябрамі ў „Т-ва Беларускае школы“ гаспадары: 117. Міхал Галяс, 118. Пётра Навагонскі, 119. Пётра Пятровіч, 120. Пранук Кіркоўскі, 121. Адольф Осьцік.

## Голад—ня цётка...

Сымпатычнейшы, як асоба, грамадзянін Біруковіч ня выседзеў, нарэшце, на „галоднай“ пасадзе сэкрэтара Віленскага Беларускага Нацыянальнага Камітэту і, як паведамляе „Jedność“, абняў пасаду Сэкрэтара Цэнтральнага Камітэту Краёвай Сувязі і юрыс-консульта.

Дзіўна, як гэта Нацыянальны Камітэт дапусьціўся да гэткае, спадзяемся, што часовае, дэзэрцыі грам. Біруковіча з бэларусаў у... краёўцы.

## У Музык.-Драмат. Гуртку.

У суботу, 29 кастрычніка, Беларускі Музыкальна-Драматычны Гурток ладзіць вечар. Прадстаўлена будзе: „Да прыходу цягніка“—камэд. і багаты дывэртысмэнт. Пасьля прадстаўленьня—танцы на залі да 4 гадзіны раніцы.

Робяцца пробы і падгатоўка для дзіцячага прадстаўленьня, каторае будзе зроблена для вучняў беларускіх школ.

# ТУТЭЙШАЕ ЖЫЦЬЦЁ.

### Забастоўка протэст.

Учора, 27. X, цэнтральным бюро клясавых профэсыянальных саюзаў арганізована была ў знак протэсту проці замеру польскага міністра фінансаў Міхальскага адмяніць 8 гадзінны рабочы дзень забастоўка з 1 гадзіны дня да 6 гадз. вечару.

З гэтае прычыны сягоньняшні нумар нашае часопісі выйшаў з друку ня раніцай, а ўвечары.

### Звальненьне камэнданта паліцыі.

Распараджэньнем Дырэктара Д-ту Ўнутраных Справаў камэндант паліцыі места Вільні Боімскі скінуты з займанае ім пасады за нетактоўнасьць і назначаны падкамісарам.

### Закрыцьце польскае газэты.

Распараджэньнем Дырэктара Дэпартамэнту Ўнутраных Справаў конфіскованы № 140 польскае газэты „Słowo Wileńskie“ за артыкул „Увазе Міністэрства Загранічных Справаў“. Выданьне газэты спынена на месяц. 20 кастрычніка выйшла аднаднёўка „Słowo Niezależne“, якая таксама конфіскована.

### Польскія аднаднёўкі.

Штодня ў газэтчыкаў можна дастаць польскую аднаднёўку—газэту, якая кожны дзень зьяўляецца пад новай назваю, сваім форматам і выглядам вельмі напамінаючы закрытае ўладаю „Słowo Wileńskie“.

25. X. выйшла „Słowo Niepodległe“, 26-га „Słowo Prawdy“, 27-га „Słowo Wytrwałe“.

# Пісьмы ў Рэдакцыю.

I.

Паважаны Грамадзяніне Рэдактару!

Дзеля таго, што рэдакцыя „Беларускіх Ведамасьцяў“ адмовілася надрукаваць, зрабеце ласку, надрукуйце ніжэйпісанае ў Вашай паважанай газэце.

У № 6 «Беларускіх Ведамасьцяў» надрукована гэткая заметка!

„У новы склад Літоўскай Епархіяльнай Рады, ўжо зацьверджанай патрыярхам, уваходзяць ад духавенства пратаярэй А. Сасноўскі (беларус) і сьвяшчэньнік М. Кушнёў (беларус, прадстаўнік праваслаўнага духавенства ў Віленскім Белар. Нацыян. Камітэце); ад міран: В. Нядзельскі (беларус) і В. Прадцечанскі (масковец)“.

Як рабачай на беларускай ніве, якому дорага, каб беларускае грамадзянства ня ўводзілася ў абмылку, лічу патрэбным заявіць ніжэйпісанае:

Там, дзе справа не аб навуковай праўдзівасьці, але аб грамадзкай працы—прыймаецца пад увагу, пры азначэньні нацыянальнасьці—не зоолёгія чалавека, але яго ідэолёгія, яго грамадзкія перакананьні і праца і з гэтага пагляду ня можна называць беларусамі прат. Сасноўскага, сьвяшч. М. Кушнёва і В. Нядзельскага.

Прат. Сасноўскі ня толькі нічагусенькі не рабіў і ня робіць для беларускае справы, але на‘т ніколі і аднаго слаўца не прамовіў у абарону гэтае справы. Што да сьвяшч. М. Кушнёва, дык ён хоць мо‘ і лічыцца яшчэ ў паперах сябрам Беларускага Нацыянальнага Камітэту, але мне, як сябру гэтага Камітэту, ведама, што ўжо 3/4 году як ніколі на зборках камітэту ён ня бывае. Затое сьвяшч. М. Кушнёў закладае рускую школу ля Астрабрамскае вул., ёсьць пісарам рускае гімназіі п. Пасьпелавае і ад рускага праваслаўнага камітэту ў Вільні быў пасланы адным з трох прадстаўнікоў у „Русскую Объединительную Организацію“. Што за беларус В. Нядзельскі, відаць хоць-бы з таго, што калі сёлета на епархіяльным зьезьдзе Вяч. Баглановіч заявіў, што беларусы дзеля таго часта адносяцца няпрыязна да праваслаўнага духавенства, што яно бороцца з беларускім рухам і радзіў, не паддзержуючы беларускага руху, толераваць яго там, дзе немагчыма задушыць, то В. Нядзельскі востра выступіў проці гэтага, дамагаючыся барацьбы з беларускім рухам навет там, дзе яго пабароць немагчыма.

Гэткія «беларусы» ўвайшлі ў склад Епархіяльнае Рады ў епархіі, выключна беларускай па нацыянальнасьці сваіх верных. Гэта—„тоже бѣлоруссы“, і памяшчаючы заметку, рэдакцыя павінна была гэта ад‘значыць. Падобная заметка, падрывае веру ў орган беларускага друку, як у сваіх, так і ў чужых.

З паважаньнем Я. **Станкевіч.**

21. X. 21.

**Ад Рэдакцыі.** Нам сказаныя асобы зусім невядомы, як беларусы і сьмеем думаць, што інформацыі „Б. В.“ зроблены праз нейкую абмылку.

II.

**Ад Прэзыдыуму Т-ва Беларускае школы.**

Дзеля адкрытага пісьма грам. А. Абрамовіча, надрукованага ў № 15 „Беларускага Звону“, гэным паведамляю, што пры назначэньні матурыстых на стыпэндыі ў Чэскі Унівэрсытэт залічэньне грам. А. Абрамовіча ў II катэгорыю адбылося бяз усякіх адносін да яго нацыянальнае сьвядомасьці, а выключна дзеля некаторых формальных заган у яго адукацыйных дакумэнтах. Дакумэнты грам. А. Абр. пасланы Прэзыдыумам у Чэскі Унівэрсытэт, а залічэньне ў II кат. зроблена дзеля таго, каб, калі ён будзе ня прыняты, быў прыгатаваны да выезду іншы кандыдат.

Я. **Станкеніч,**
пісар Т-ва Беларускае Школы.

III.

Грамадзянін Рэдактар!

У апошнім N «Беларускіх Ведамасьцяў» надрукована заметка аб тым, што быццам я „быўшы карэктар газэты „Еднасьць“ загрызены сумленьнем—кінуў гэтую работу“...

Бяссэнсоўны, наіўны, (ці мо‘ гэта гумарыстычны?..) зьмест заметкі ня выклікаў-бы мяне пісаць гэтым ліст, каб пан рэдактар „Ведамасьцяў“ не пачаў свае гэтай заметкі такімі словамі:—„У гутарцы з нашым супрацоўнікам, быўшы карэктар газэты „Еднасьць“ і т. д. — Вось дзеля гэтага я змушаны не жартуючы, як пан Гарэцкі, а саўсім паважна заявіць, што з ніякім яго супрацоўнікам я на гэтую тэму гутаркі ня меў і хіба што мець ня буду, бо ніколі яшчэ ня каяўся ў тым, што рабіў і ніколі ня буду рабіць таго, што было-б проці майго сумленьня, каб пасьля прыходзілася каяцца.

З пашанаю
**Язэп Нялепка (Пілінаў).**

## Віленская біржа.

За 27 кастрычніка 1921 г.

Офіцыяльна.

| | Куплена. | Прадана. |
|---|---|---|
| Даляры . . . . . . . . | 4225 | 4100 п. м. |
| Франкі . . . . . . . . | 315 | 303 „ |
| Фунты штэрлінгаў . . | 16600 | 15900 „ |
| Ост.-маркі (1000) . . . | 29.50 | 28 „ |
| Нямецк. маркі (1000) . | — | — |
| 10 руб. золатам . . . . | 18600 | 18100 „ |
| 1 „ серабр. . . . . | — | — |
| 1 „ дробнымі . . . | — | — „ |
| Царскія 500 р. . . . . | 800 | 700 „ |
| „ 100 р. . . . . | 400 | 360 „ |

Друкарня „Віленскага Выдавецтва“ Б. Клецкіна, М.-Сьцяпанаўская, 23. Рэдактар-Выдавец ФРАНЦІШАК АЛЯХНОВІЧ.